16 чэрвеня 1994 г.
Чацвер
№ 65(13782)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЗ ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК






*Людміла СОВУШКІНА (на здымку) пакуль яшчэ студэнтка Беларускага дзяржаўнага універсітэта транспарту. Цяпер яна рыхтуецца да здачы экзаменаў. Міне час — і за спінай застануцца і гады вучобы, і абарона дыпломнага праекта. Пачнецца самастойная працоўная дзейнасць. Раней выпускнікі ВНУ працавалі на тэрыторыі ўсяго Саюза, уключаючы БАМ. Сёння ж "размяркоўваюцца" самі, прычым толькі ў Беларусі.*

*Цяжка пакуль сказаць, як складзецца лёс Людмілы, але яна перакананая ў адным: веды ўсё роўна спатрэбяцца.*

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### І слабы пол можа быць моцным

*У дэмакратычных краінах лічыцца знакам добрага тону, калі жанчыны прадстаўлены ва ўладных структурах, займаюць значныя пасады ў дзяржаве ці нават кіруюць ёй. У нас пакуль жанчын — прыкметных палітыкаў — няшмат, затое даволі багата жаночых арганізацый — рухаў, саюзаў, партый, блокаў, аб'яднанняў — каля 30.*

Адна з новых партый — Беларуская партыя жанчын "Надзея". Створана яна актывісткамі жаночага і прафсаюзнага руху. Мэты партыі — абарона жанчын, іх палітычных і эканамічных правоў. Як заявіла на прэс-канферэнцыі старшыня партыі Палевікова В.Т., партыя мае намер удзельнічаць у парламенцкіх выбарах, лабіраваць жаночыя пытанні на ўсіх узроўнях заканадаўчай улады. На жаль, сказала спадарыня Палевікова, мы не паспелі ўключыцца ў прэзідэнцкія выбары, хаця многія заўважаюць, што жанчыны маглі б скласці дастойную канкурэнцыю шасці прадстаўнікам моцнага полу.

Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ.

### "Подзвігі бацькоў – дарогі сыноў"

*Такую назву носіць патрыятычнае акцыя, ініцыятарамі якой сталі Міністэрства абароны, Міністэрства культуры і друку і газета "Во славу Родины". Вось ужо больш чым год у яе межах праводзяцца мерапрыемствы, прысвечаныя 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

Сёння адбудзецца агітацыйны дэсант пад дэвізам "Рубяжы нязломнага духу" па маршруту Мінск—Плешчаніцы—Стара-Барысаў—Жодзіна па месцах баёў мінулай вайны.

Сярод удзельнікаў — намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда, намеснік начальніка ўпраўлення выхаваўчай работы Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь палкоўнік Васіль Багачоў, ветэраны, ваенныя журналісты. У праграме пералёту — сустрэчы з воінамі і мясцовымі жыхарамі, з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны.

Пачнецца ўсё ў Ліпках а 9-й гадзіне раніцы. У Плешчаніцы агітпералёт будзе ў 10.30. У Барысаве — сустрэча з жыхарамі горада ля танка Паўла Рака апоўдні. У 15.00 агітпералёт чакаюць ў Жодзіна.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

### Вахта памяці

*Напярэдадні 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь, Камітэтам па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскім саветам арганізацыі ветэранаў Рэспублікі Беларусь з 11 па 24 чэрвеня на тэрыторыі Віцебскай вобласці і з 18 па 25 чэрвеня па тэрыторыі Магілёўскай вобласці будзе праводзіцца рэспубліканская "Вахта Памяці", у якой прымуць удзел каля 500 навучэнцаў з усіх куткоў нашай рэспублікі.*

Вучні сустрэнуцца з ветэранамі, удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, дапамогуць сем'ям загінуўшых, пройдуць зорнымі паходамі па мясцінах былых баёў. Разам з настаўнікамі і прадстаўнікамі вайсковых часцей запланавана абследаванне мясцін былых баёў і перазахаванне астанкаў былых абаронцаў Айчыны, устанаўленне імёнаў прапаўшых без вестак.

Кантактныя тэлефоны для тых, хто хоча паўдзельнічаць у "Вахце Памяці" ў Віцебску 4-30-26, у Магілёве — 22-16-20, у Мінску — 62-54-19, 62-34-21.

(Ул.інф.)

### Культура беларускага замежжа

*Два дні ў Мінску працавала міжнародная канферэнцыя, прысвечаная праблемам культуры беларускага замежжа.*

У канферэнцыі бралі ўдзел грамадзяне Беларусі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Польшчы, Англіі, Бельгіі, Літвы, Эстоніі і іншых дзяржаў. Сярод удзельнікаў такія вядомыя дзеячы беларускага замежжа, як Майсей Сяднёў, Сакрат Яновіч, Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік ды іншыя. Прадстаўнічая імпрэза разглядала пытанні гісторыі, літаратуры, мастацтва ў самым шырокім аспекце. Вырашана, што цяпер такія канферэнцыі будуць праводзіцца сістэматычна — раз у два гады. Магчымым вынікам канферэнцыі будзе заснаванне асобнага фонду "Культура беларускага замежжа".

Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ.

### Усё пра мастакоў

*Шмат цікавага аб выяўленчым мастацтве Гродзеншчыны і творчасці прынёманскіх аўтараў можна даведацца з новага буклета "Мастакі Гродзеншчыны", прэзентацыя якога адбылася ў зале выстаў абласнога аддзялення Саюза мастакоў Беларусі.*

36 членаў Саюза прадстаўлены на старонках буклета. Змешчаны фотаздымкі лепшых твораў і іх стваральнікаў, творчыя біяграфіі, весткі аб удзеле ў выставах.

Выдалі буклет, здаецца, першы за апошнія паўстагоддзя, Гродзенская абласная арганізацыя Саюза мастакоў, упраўленне культуры аблвыканкама пры дапамозе МП "Арніка".

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Клінтан вітае фестываль

*Інфармацыйная служба ЗША перадала ў Белінфарм зварот прэзідэнта ЗША Біла Клінтана, адрасаваны ўдзельнікам першага міжнароднага фестывалю Марка Шагала, які пройдзе на радзіме мастака — у Віцебску.*

"У Беларусі, якая набыла нядаўна незалежнасць,— гаворыцца ў прывітанні,— мастацтва сімвалізуе сілу і рашучасць народа, які ажыццяўляе гістарычны пераход да новага жыцця".

(Больш падрабязна пра фестываль чытайце на 3-й стар.)

БЕЛІНФАРМ.

### Фінансы могуць падвесці, курсант – ніколі!

*Курсанты-першакурснікі факультэта ўнутраных войск Мінскага вышэйшага ваеннага каманднага вучылішча высадзілі ў Барысаве працоўны дэсант.*

Справа ў тым, што тут будзе адкрыты новы навучальны цэнтр. Аднак памяшканню патрабаваўся рамонт, сродкаў на які, як вядома, заўсёды не хапае. Прыйшлося курсантам самім сябе выручаць: самі клалі шыфер на дах, працавалі малярамі і тынкоўшчыкамі, рабілі многае іншае. Камандзірам работа спадабалася. А курсанты атрымалі разам з удзячнасцю па сутачнаму звальненню.

Андрэй КАСЦЮКОВІЧ, курсант МВВВКВ.

### Міша, ды не той

*"Бацькі дома?" — спыталі зладзеі ў пяцігадовай дзяўчынкі, якая адчыніла ім дзверы адной з кватэр у Маладзечна. Тая шчыра прызналася, што мамы з татам дома няма, а "ёсць толькі Міша". Пацікавіўшыся, колькі гадоў Мішы і даведаўшыся, што ўсяго тры, злачынцы смела зайшлі ў кватэру, збіраючыся яе абрабаваць. Але тут зразумелі, што недаацанілі Мішу.*

Ён аказаўся вялікай аўчаркай, якая не выпусціла няпрошаных гасцей да прыходу бацькоў і міліцыі.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Курсы валют на 15 чэрвеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Прода |
| "Комплекс" | 23010 | 23700 | 13983 | 14400 |
| "Прыор" | 23000 | 23500 | 14000 | 14300 |
| "Пошук" | 22900 | 23500 | 13800 | 14300 |

## ВЫБАРЧЫ МАРАФОН: ПАЗІЦЫІ, ДУМКІ, МЕРКАВАННІ

# Усё змяняецца, ў тым ліку і імідж кандыдатаў

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

Калі б мы сказалі, што з якімсьці з прэтэндэнтаў на высокую дзяржаўную пасаду адбылася апошнім часам дзіўная метамарфоза, маючы на ўвазе светапогляд і спосаб падачы сябе і сваёй праграмы аўдыторыі, гэта была б няпраўда. Але такія-сякія змены, карэкціроўка іміджу з многімі ўсё ж адбыліся. Нічога дзіўнага — прэзідэнт не проста палітычная фігура, але і чалавек, які ў ідэале павінен імпанаваць як мага больш шырокім колам насельніцтва — хатнім гаспадыням, прадпрымальнікам, студэнтам, рэктарам, рабочым, дырэктарам і пенсіянерам. Зусім натуральнае жаданне — падабацца —прымушае кандыдатаў працаваць на публіку.

Збольшага вобраз шасці персон, кожная з якіх разумее неабходнасць як мага часцей з'яўляцца "на людзях", ужо склаўся.

Кагосьці з кандыдатаў у прэзідэнты будучы выбаршчык ведае лепш і даўно, нехта з'явіўся перад вачыма таго ж выбаршчыка параўнальна нядаўна. Калі першыя карэкціруюць манеру паводзін, выпраўляюць хібы і недахопы, якія, на думку ўласную і каманды, не зусім спрыяюць дасягненню высокай мэты, дык апошнія бяруць на ўзбраенне тыя ж метады, фарміруючы свой палітычны і псіхалагічны вобраз. Прагрэс відавочны.

На з'езд Саюза моладзі Беларусі, які нядаўна адбыўся ў Мінску, былі запрошаны ўсе шэсць кандыдатаў. Безумоўна, дзіўна было б, калі б усе шэсць з'явіліся. Агітацыйная геаграфія выбарчай гонкі шугае прэтэндэнтаў то ў вёску, то ў райцэнтр, не кажучы ўжо пра замежныя камандзіроўкі. Таму з'явіліся толькі тры: Шушкевіч, Лукашэнка і Новікаў. Першы — адзін і раней, апошнія — пазней і разам.

Калі ўзгадаць нядаўнюю выбарча-рэкламную кампанію ў Маскве, дык адразу кідаецца ў вочы, што там кандыдаты пайшлі іншым шляхам. Свой вобраз, іншымі словамі — якасці, набытыя і адшліфаваныя на публіцы загады пастаяннага мільгацення на экранах і газетных старонках, — яны яшчэ больш падкрэслівалі, выпіналі, ганарыліся ім, зноў і зноў абкатваючы яго перад аўдыторыяй. Гайдар з'яўляўся перад вачыма тэлеглядача ўкормленым і красамоўным буржуа, сімвалізуючы "выбар Расіі". Жырыноўскі не саромеўся абяцаць аўдыторыі перакінуць чарнобыльскі пыл на Захад, а кожнаму афіцэру даць па маёнтку. Грэбуючы разумным сэнсам, Жырыноўскі ў адведзеныя яму тэлегадзіны ўзмацняў імідж справядлівага дыктатара.

Тактыка расійскага абсурду была адразу ж адхілена нашым мясцовым палітычным бамондам, калі распачалася прэзідэнцкая кампанія.

Быў час, многія папракалі Станіслава Шушкевіча ў недастатковай цвёрдасці, акрэсленасці палітычных перакананняў, упэўненасці ў іх адстойванні. Па зместу прэтэнзіі ішлі ў асноўным з дэмакратычнага боку, па форме — з розных бакоў. Потым з прычыны страчанага становішча папракаць фактычна ўжо не было каму. Сёння Станіслаў Шушкевіч прапаноўвае сябе аўдыторыі і адстойвае галоўныя пункты сваёй праграмы з упэўненасцю, адкарэкціраванай да рытмічнай цвёрдасці стылю і інтанацый. Спачатку здавалася, што Шушкевіч моцна рызыкнуў, калі з'явіўся як кандыдат у прэзідэнты на з'езд былога камсамола. Ад путчаў і пушчаў 91-га года больш за ўсіх пацярпела партыя разам з малодшым братам камсамолам, а Шушкевіч не апошні чалавек у падзеях таго памятнага года. Але аўдыторыя на дзіва добразычліва ўспрыняла ягоныя жарты і адказы на каверзныя пытанні.

Здаецца, жадаў бы змяніцца і Аляксандр Лукашэнка. Магчыма, робіць уплыў блізкае акружэнне кандыдата. Прынамсі, хаця пакаранне карупцыянераў і засталося галоўным козырам старшыні распушчанай парламенцкай камісіі, аднак зрываць апладысменты толькі на гэтым сёння ўжо значна цяжэй, чым учора, калі многім падавалася, што прычына нашага грамадскага недабрабыту — чыноўнік-хабарнік. Зразумела, патрабуюцца прапановы больш стваральнага плана. І такая прапанова ў праграме Аляксандра Лукашэнкі ёсць. Гэта — дагавор з Расіяй, стаўку на які робіць і Вячаслаў Кебіч. Але Лукашэнка перакананa даводзіў аўдыторыі, што паўнакроўны дагавор з Расіяй можа падпісаць толькі новы ўрад. Чый — само сабою зразумела.

Прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду ад камуністычнай партыі Васіль Новікаў вырашыў "развесяліць" свой імідж пры дапамозе анекдота з уласнага жыцця. У Васіля Новікава, аказваецца, няма ні кабінета, ні тэлефона, ні машыны (гэта яшчэ не анекдот). Анекдот пачаўся, калі Новікаў паспрабаваў праехаць у метро бясплатна і, каб абгрунтаваць свае правы, паказаў кантралёрцы пасведчанне кандыдата ў першыя беларускія прэзідэнты. Падземная варта адрэагавала належным чынам: "Што, кандыдат? Вось калі станеш прэзідэнтам, тады і паедзеш бясплатна". Аўдыторыя была падкуплена і ўзнагародзіла прамоўцу сапраўднымі авацыямі.

Ведаць, што і як сказаць той ці іншай аўдыторыі, — таксама пытанні тактыкі і праблемы іміджу. Маладой публіцы, думаецца, прыемна было пачуць, што ў камандзе аднаго з кандыдатаў дзве трэці — людзі да сарака гадоў. Зразумела, гэтым аргументам наўрад ці стаў бы карыстацца кандыдат на сходзе пенсіянераў ці ветэранаў.

### НАЗІРАЛЬНІК ПАЧАЎ ПРАЦАВАЦЬ

*Былы галоўны рэдактар канала ТБ-2 Швецыі (цяпер ён займаецца навуковымі праектамі, звязанымі з развіццём радыёвяшчання і тэлебачання Швецыі) пан Олаф Хансан, які прыбыў у Мінск у якасці назіральніка на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах, правёў прэс-канферэнцыю для журналістаў.*

Было паведамлена, што ў ходзе маніторынга, які праводзіцца на працягу ўсёй кампаніі па выбарах першага прэзідэнта Беларусі, будуць аналізавацца такія праблемы, як непрадузятасць асвятлення, прастата доступу ўсіх палітычных партый да сродкаў масавай інфармацыі,баланс прэзентацыі розных палітычных напрамкаў, а таксама здольнасць саміх СМІ працаваць свабодна і сумленна.

### НА ДЭБАТЫ НЕ ЗГОДНЫ

*Нягледзячы на тое, што кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду ў апошні час усё часцей заклікаюць адзін аднаго да правядзення перадвыбарных дэбатаў у прамым эфіры, па ўсёй верагоднасці, "сустрэча шасцёркі" за "круглым сталом" тэлестудыі не адбудзецца.*

Як удалося высветліць, ні адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла, насуперак шматлікім заявам, так і не даў афіцыйнай згоды на ўдзел у дыскусіі са сваімі апанентамі.

### ПРЭТЭНДЭНТ БЕЗ ПАШПАРТА?

*У выпадку, калі пасля першага тура выбараў Аляксандр Лукашэнка зойме прэзідэнцкае крэсла, яму, магчыма, прыйдзецца стаць першым прэзідэнтам у свеце, які ўступае на пасаду, не маючы пры сабе асноўнага дакумента, што засведчвае асобу, — пашпарта.*

Як удалося высветліць, дакументы, што зніклі разам са службовай машынай, да гэтага часу не вярнулі. Афармленне ж новых пакуль зацягваецца.

### ПАД АДКРЫТЫМ НЕБАМ

*вымушаны быў праводзіць сустрэчу з выбаршчыкамі пасёлка Расоны былы міністр унутраных спраў Рэспублікі генерал-палкоўнік Уладзімір Ягораў, які на час выбараў з'яўляецца даверанай асобай экс-спікера беларускага парламента Станіслава Шушкевіча.*

Безумоўна, больш прыстасаваную для сустрэч залу мясцовага дома культуры ён змяніў на пляцоўку пад адкрытым небам не па сваёй волі. Доступ у яго былому міністру быў закрыты ў сувязі з раптоўным рамонтам.

– У нас была дагаворанасць з адміністрацыяй Дома культуры, – заявіў кіраўнік прэс-групы Станіслава Шушкевіча Юрый Рабчук. – Больш таго, дакладна вядома, што напярэдадні вечарам мясцовая моладзь весялілася там на дыскатэцы. Чым выклікана такая раптоўная неабходнасць рамонту – можна толькі здагадвацца.

БЕЛІНФАРМ.

### ВЕТЭРАНЫ-ДЭМАКРАТЫ – ЗА ПАЗЬНЯКА

*У Мінску адбыўся сход сяброў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў.*

Удзельнікі сходу,абмеркаваўшы палітычную сітуацыю ў краіне і сацыяльна-матэрыяльны стан грамадзян, а таксама прааналізаваўшы праграмы кандыдатаў на пасаду першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і дзейнасць прэтэндэнтаў да перадвыбарчай кампаніі, аднаналосна вырашылі падтрымаць кандыдатуру Зянона Пазьняка.

(Ул. інф.)

### Удакладненне

У № 64 нашай газеты ў эканамічнай праграме Зянона Пазьняка па тэхнічнай прычыне нестае ў апошнім абзацы двух радкоў. Трэба чытаць: "Ствараецца сістэма міжнародных біржаў: фондавай, энерганосьбітаў, металаў, збожжавай і інш." Прыносім свае прабачэнні за дапушчаную недакладнасць.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі Віктар КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.*

### "Еўраньюс"

#### ДАГАВОР АБ АХОВЕ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

*25 еўрапейскіх дзяржаў, а таксама Канада падпісалі дагавор аб абароне навакольнага асяроддзя.*

На двухдзённай канферэнцыі было прынята рашэнне да 2000 года знізіць на 80 працэнтаў выкіды ядавітых газаў. Германія, Данія, Швецыя і Аўстрыя жадаюць вырашыць гэту праблему за два гады. Да пачатку XXI стагоддзя плануецца наладзіць выпуск аўтамабіляў, якія будуць працаваць толькі на прыродным газе.

#### КВАТЭРА – У ЗААПАРКУ

*У мазамбікскім заапарку Бейра пасялілася 5 бяздомных сем'яў у клетках для львоў, тыграў і леапардаў.*

Уладальнік заапарка заявіў, што ўсе прадстаўнікі сям'і кашачых памерлі, таму ён і вырашыў здаць пустыя клеткі ў наём бяздомным. Каб абараніць сябе ад цікаўных поглядаў, людзі завесілі краты матэрыяй і газетамі. Аднак праблемай застаецца суседства двух заўжды галодных babкракадзілаў, якія ўжо некалькі разоў уцякалі з клеткі і нападалі на бяздомных сабак.

### "Уорлднэт"

#### ЖУДАСНАЕ ПРЫЗНАННЕ

*У Бейруце ідзе расследаванне па справе Юсіша Шабана. Апошні заявіў перад судом, што гэта ён заклаў бомбу ў шатландскі самалёт, які ўзарваўся 21 снежня 1988 года.*

У выніку аварыі загінула 217 чалавек. Суддзі былі ўражаны гэтым прызнаннем. Абвінавачваемы не здзівіўся, калі зачыталі прыгавор — смяротнае пакаранне.Аднак па прапанове суддзяў працэс быў адкладзены на некаторы час, бо многія лічаць неабходным псіхічнае абследаванне падсуднага.

#### ФЕСТЫВАЛЬ У ЛОНДАНЕ

*Хор з 26 прадстаўнікоў народнасці Маоры выступіў сумесна з гуртом "Кроўдзід Хаўз" на штогадовым фестывалі ірландскай музыкі, які адбыўся ў Лондане.*

Новазеландцы заваявалі сэрцы амаль 60 тысяч гледачоў у парку Фінсберы тым, што з'явіліся на сцэне ў футболках ірландскай зборнай па футболу.

### "Суперчэннэл"

#### ТАЯМНІЧЫ ВЫБУХ У КАНАДЗЕ

*Моцны выбух скалануў Манрэаль і бліжэйшыя раёны.*

Ахвяр няма. Паводле паведамленняў паліцыі, сведкі з усходняй часткі горада бачылі ў небе вогненны шар. Верагодна, што гэта быў метэарыт, які прызямліўся на полі на ўсход ад Манрэаля. Выбух быў падобна землятрусу ў 3,8 бала па шкале Рыхтэра.

### "TV-5"

#### ЕС – УКРАІНА

*Еўрапейскі саюз падпісаў пагадненне аб гандлі і супрацоўніцтве з Украінай.*

У пагадненні прадугледжана дапамога саюза ў пабудове рыначнай эканомікі ў былой савецкай рэспубліцы. Краіны Еўрапейскага саюза настойваюць на закрыцці Чарнобыльскай АЭС. Аднак Украіна жадае атрымаць у такім выпадку кампенсацыю для развіцця ядзернай энергетыкі. Паводле папярэдніх падлікаў, закрыццё гэтай станцыі і будаўніцтва трох новых будзе каштаваць 1,5 мільярда даляраў.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## ЛУКАШЭНКА Аляксандр Рыгоравіч

Год нараджэння 1954. Беларус. Закончыў Магілёўскі педагагічны інстытут і Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

**Працоўная дзейнасць:**

1971-1975 гг. – студэнт Магілёўскага педінстытута.
1975 – сакратар камітэта камсамола СШ № 1 г. Шклова.
1975-1977 гг. – інструктар палітаддзела Заходняй пагранічнай акругі.
1977 г. – сакратар камітэта камсамола Магілёўскай гарадской арганізацыі грамадскага харчавання.
1977-1978 гг. – інструктар Акцябрскага райвыканкама.
1978-1980 гг. – адказны сакратар таварыства "Веды", г. Шклоў.
1980-1982 гг. – намеснік камандзіра роты па палітчастцы, в/ч 04104.
1982-1983 гг. – намеснік старшыні калгаса "Ударнік" Шклоўскага раёна.
1983-1985 гг. – намеснік дырэктара камбіната будматэрыялаў, г.Шклоў.
1985-1987 гг. – сакратар парткома калгаса імя Леніна Шклоўскага раёна.
1987– па цяперашні час – дырэктар саўгаса "Гарадзец" Шклоўскага раёна.

# Адвесці народ ад бездані

## (Тэзісы праграмы кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі)

*А.ЛУКАШЭНКА: Чаму мы так жывём? Чаму няма згоды ў грамадстве, веры ў людзях, надзеі ў народзе? Таму што палітыкі, якія прадстаўлялі саміх сябе або свае партыі, увесь час ілгалі людзям. Развалілі Саюз пад абяцанне адзінства народаў і інтэграцыі эканомік, абвясцілі рэформы — і "прыхватызавалі" краіну, абяцалі працвітанне ў рыначным раі — і зрабілі жабракамі простых людзей.*

*Аляксандр Рыгоравіч ЛУКАШЭНКА — беларус. Ураджэнец Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці. Узрост — 39 гадоў. Рос без бацькі. Жанаты. Двое сыноў.*

*Мае дзве вышэйшыя адукацыі: гуманітарную (гісторык) і спецыяльную эканамічную.*

*У Лукашэнкі няма вопыту хлусні і інтрыг, таму што ён ніколі не належаў да наменклатуры, не сядзеў у абкомаўскіх крэслах. Але ў Лукашэнкі ёсць іншы вопыт — вопыт жыцця ў самай гушчы народнай. Жыццё Лукашэнка ведае не па чутках. Быў настаўнікам, 5 гадоў адслужыў у арміі (сёння маёр запасу), два гады кіраваў прамысловым прадпрыемствам, 10 гадоў аддаў сельскай гаспадарцы. І да ўсіх гора-эксперыментаў над вёскай у сваім саўгасе даў селяніну магчымасць адчуць сябе гаспадаром зямлі.*

*На выбарах народных дэпутатаў СССР Лукашэнка ўступіў у барацьбу за дэпутацкі мандат з Вячаславам Кебічам. І ва ўмовах адміністрацыйнага дыктату ўступіў сапернiку ўсяго адзін працэнт галасоў.*

*У 1990 годзе Аляксандра Лукашэнку выбралі народным дэпутатам БССР у яго родных краях, дзе ён вядомы як сумленны чалавек з мысленнем сапраўды дзяржаўнага дзеяча.*

*У Вярхоўным Савеце Лукашэнку давялося нялёгка, бо ён не адмовіўся ад сваіх прынцыпаў і не забываў пра народ. Воля народа для яго заўсёды была самым свяшчэнным законам. Менавіта таму ён адзіны прагаласаваў супраць Белавежскіх пагадненняў, якія парушалі вынікі ўсенароднага рэферэндуму.*

*"Хопіць ілгаць народу". Першым аб гэтым сказаў Лукашэнка. Узначаліўшы камісію па барацьбе з карупцыяй, ён не спасаваў, а паспрабаваў вырваць наша грамадства з моцных абдымкаў мафіёзнага спрута. Гэтым ён паставіў сябе пад жорсткі ўдар.*

*Але пазіцыя Лукашэнкі застаецца нязменнай: "Ні з левымі, ні з правымі, а з народам — супраць тых, хто народ падманвае і рабуе". Таму і сёння ў прадажнага чыноўніцтва галоўны вораг – Лукашэнка.*

*Не знайшоўшы падтрымкі ў наменклатурным парламенце, Лукашэнка знаходзіць яе ў народа.*

*Лукашэнка добра ўяўляе сапраўдныя прычыны нашага крызісу і ведае, як ад іх пазбавіцца.*

*Ніжэй публікуюцца асноўныя тэзісы перадвыбарнай праграмы кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Законы газетнага жанру, на жаль, не даюць магчымасці даць поўную праграму кандыдата.*

### СІТУАЦЫЯ

Мы сталі над безданню сістэмнага крызісу дзяржавы. Нават пасля Вялікай Айчыннай вайны такога не было. Агульны спад вытворчасці склаў 40 працэнтаў. Сельская гаспадарка адкінута на дваццаць гадоў назад. Інфляцыя ў 1993 годзе склала 1700 працэнтаў і ўзрастае на 50 працэнтаў штомесяц. Спынена вытворчасць на многіх прадпрыемствах, расце беспрацоўе. Зніжаецца матывацыя да прадукцыйнай працы. Працвітаюць спекуляцыя, насілле, размываюцца маральныя асновы грамадства, сумленнасць і прыстойнасць становяцца катэгорыямі трэцяга гатунку. Злачыннасць замахнулася не толькі на бяспеку грамадзян, але і на саму дзяржаву. Карупцыя паралізавала работу ўлады. Па жываму разрэзаны традыцыйныя сувязі брацкіх народаў...

### МЭТЫ

Адноўленая дзяржаўная ўлада павінна забяспечыць:

1. Прыярытэтнае вырашэнне праблем эканомікі і сацыяльнай сферы — спыненне росту цэн і збяднення насельніцтва, рух грамадства ад бездані развалу і сацыяльнага выбуху да стабільнасці і прагрэсу.
2. Барацьба з карупцыяй, разгром мафіёзных структур, якія кіруюць у дзяржаве.
3. Аднаўленне на раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове знішчаных сувязей з дзяржавамі, якія раней уваходзілі ў састаў СССР, перш за ўсё з Расіяй і Украінай.

### ЧАМУ МЕНАВІТА ГЭТЫЯ МЭТЫ?

Па-першае, таму што яны адпавядаюць вышэйшым нацыянальным інтарэсам нашага народа. Па-другое, з прычыны іх вялізнага ўплыву на лёс дзяржавы.

Рост цэн выключае нармальнае функцыяніраванне эканомікі, прадукцыйная праца губляе сэнс ва ўмовах, калі звышвыгаднай становіцца спекуляцыя.

Карупцыя — гэта пагроза і палітычнай, і эканамічнай бяспецы дзяржавы. Гэта поўнае разлажэнне дзяржаўнага апарату і абсалютная страта кіравання дзяржаўным сектарам эканомікі. Гэта тормаз на шляху станаўлення прававой сацыяльнай дэмакратычнай дзяржавы, эфектыўнага развіцця вытворчасці.

Раўнапраўнае і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва з іншымі краінамі, перш за ўсё з Расіяй і Украінай, не патрабуе асаблівага абгрунтавання. Гэтага патрабуе не столькі эканоміка, колькі само жыццё.

### ЯК ДАСЯГНУЦЬ ГЭТЫХ МЭТАЎ?

У арганізацыйным плане — толькі за кошт аб'яднання намаганняў усіх грамадзян, за кошт забеспячэння стабільнасці ў грамадстве, стварэння матывацыі да сумленнай і прадукцыйнай працы, за кошт прыцягнення да кіравання эканомікай і грамадствам прафесійных і, галоўнае, нераўнадушных людзей. Гэта можна зрабіць, абапіраючыся на новыя прынцыпы дзейнасці ўлады, якая павінна стаць: **высокаадказнай, народнай, а не партыйнай, кампетэнтнай, а не кланавай.**

Стабілізацыя цэн будзе ажыццяўляцца паслядоўным правядзеннем наступных мерапрыемстваў:

— устанаўленнем дзяржаўнага кантролю за цэнаўтварэннем, каб выключыць рост прыбытку за кошт павышэння цэн;

— прадастаўленнем права кантролю за цэнамі на спажывецкія тавары і паслугі грамадскім арганізацыям і іх падтрымкай з боку дзяржавы;

— устанаўленнем заканадаўчых умоў, калі рост вытворчасці прадукцыі ў натуральным ці якасным выражэнні, а таксама зніжэнне затрат стануць адзіна магчымымі і законнымі фактарамі павелічэння прыбытку і заработнай платы;

— увесь прырост прыбытку за кошт неабгрунтаванага павышэння цэн будзе спаганяцца ў бюджэт, абкладацца жорсткімі штрафнымі санкцыямі, а кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый пры парушэнні дзяржаўнай палітыкі цэн будуць прыцягвацца да суровай адказнасці, у тым ліку і да крымінальнай;

— будзе значна павышана самастойнасць Нацыянальнага банка Беларусі ў вызначэнні і ажыццяўленні эмісійнай палітыкі з мэтай ліквідацыі заганнай практыкі выпуску ў абарачэнне беставарных грошай;

— будуць значна скарочаны расходы дзяржавы на ўтрыманне дзяржаўнага апарату і ажыццяўляцца адрасная падтрымка прадпрыемстваў, якія маюць праекты эфектыўнай структурнай перабудовы вытворчасці;

— будзе зменена практыка фарміравання дзяржаўнага бюджэту з мэтай узгаднення яго расходнай часткі з даходнай, а не наадварот, як гэта мае месца цяпер.

Рост цэн як нацыянальнае бедства не адзіная балючая кропка ў сацыяльна-эканамічнай сферы. Да асабліва важных напрамкаў дзейнасці абноўленая ўлада павінна аднесці:

### АДНАЎЛЕННЕ КІРУЕМАСЦІ ЭКАНОМІКАЙ

Кіруемасць эканомікай — гэта антыпод безуладдзя і беззаконнасці, і яе не трэба блытаць з вяртаннем да адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Парадаксальна, але факт — страта кіруемасці эканомікай адбываецца на фоне росту колькасці дзяржаўнага апарату і зніжэння адказнасці чыноўнікаў за стан спраў. Захаванне такой сітуацыі робіць бессэнсоўнай распрацоўку любых праграм рэфармавання, таму што яны загадзя асуджаюцца на няўдачу.

Працэсы змянення адносінаў уласнасці, якія рэальна праходзяць у краіне, павінны быць падмацаваны адпаведным змяненнем сістэмы кіравання эканомікай.

Для гэтага неадкладна будуць зроблены наступныя крокі:

1. Будзе ўведзены рэжым прамога кіравання дзяржаўнымі прадпрыемствамі.
2. Будзе вызначаны жорсткі парадак назначэння кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў па прынцыпу іх прафесіяналізму і адказнасці.
3. Будзе ўведзена такая практыка ўстанаўлення дзяржаўных службовых акладаў, калі зарплата кіраўніка стане напрамую залежаць ад выніку работы калектыву, які ён узначальвае, а не ад яго асабістай прыхамаці.
4. Будуць на справе дакладна размежаваны паўнамоцтвы мясцовых і рэспубліканскіх органаў улады і кіравання, а прынцып персанальнай адказнасці за стан спраў будзе ператвораны з дэкларацыі ў дзейсны механізм забеспячэння эфектыўнай работы кіруючых кадраў.

### АЖЫЎЛЕННЕ ІНВЕСТЫЦЫЙНАЙ ПАЛІТЫКІ

Яно будзе ажыццяўляцца на аснове рэалізацыі комплексу палітычных, прававых і арганізацыйных мераў, якія гарантуюць стабільнасць інвестыцыйнага клімату ў Рэспубліцы Беларусь. У ліку такіх мераў будуць:

— планамернае і істотнае павелічэнне рэсурсаў доўгатэрміновага крэдытавання, якія накіроўваюцца банкамі на рэалізацыю інвестыцыйных праектаў пры аднaчасовым зніжэнні ставак крэтыдавання;

— устанаўленне дыферэнцыраваных працэнтных ставак у адпаведнасці з галоўнымі прыярытэтамі дзяржавы;

— вызначэнне галін эканомікі і канкрэтных інвестыцыйных праектаў, якія будуць падтрымлівацца дзяржавай;

— стварэнне надзейнай прававой сістэмы страхавання і перастрахавання камерцыйнай рызыкі, гарантый вывазу капіталу, легальна заробленага замежнымі інвестарамі.

### УЗМАЦНЕННЕ ФУНКЦЫІ ДЗЯРЖАЎНАГА ВАЛЮТНАГА РЭГУЛЯВАННЯ

Сур'ёзная залежнасць стану эканомікі ад эфектыўнасці валютнага рэгулявання прадвызначае неабходнасць узмацнення функцый дзяржавы ў гэтай сферы на аснове стварэння эфектыўнай сістэмы эканамічных і адміністрацыйных мераў. У першую чаргу гэта праблема будзе вырашацца за кошт:

— стварэння прававога асяроддзя для эфектыўнай каардынацыі дзейнасці мытнай і банкаўскай сістэм з мэтай перакрыцця ўсіх каналаў уцечкі валютных сродкаў за мяжу;

— узмацнення кантролю за валютнымі сродкамі камерцыйных банкаў за мяжой і іх рацыянальным выкарыстаннем з мэтай прадухілення скрытага інвесціравання эканомікі замежных дзяржаў;

— узмацнення матэрыяльнай і крымінальнай адказнасці за незаконныя аперацыі з валютай і яе незаконны вываз за мяжу;

— прыняцця мераў, якія выключаюць безліцэнзійны валютны гандаль.

### ПРЫЯРЫТЭТЫ ГАЛІНОВАГА ХАРАКТАРУ

Зямля спрадвеку справядліва лічылася карміцелькай народа. Але гэту сваю ролю яна паспяхова выконвае не толькі пры беражлівых, амаль мацярынскіх адносінах да яе, але і пры адпаведных адносінах грамадства, і перш за ўсё дзяржавы, да сялянскай працы. Таму:

— дзяржава павінна гарантаваць сельскай гаспадарцы не пастаянныя датацыі, а парытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю;

— галіна павінна быць аднесена да ліку прыярытэтных аб'ектаў фінансавання на аснове кароткатэрміновага і доўгатэрміновага крэдытавання;

— дзяржаўную падтрымку атрымаюць тыя структурныя рэформы, якія будуць садзейнічаць павышэнню ўзроўню самазабяспечанасці Беларусі ў алеі, цукры, харчовых гатунках збожжа, экалагічна чыстай прадукцыі для ўнутранага спажывання. Усямерна будзе заахвочвацца вытворчасць канкурэнтаздольнай экспартнай прадукцыі галіны. Прэзідэнт будзе выступаць супраць развалу сістэмы калгасаў і саўгасаў, але будзе падтрымліваць працэсы іх натуральнага пераўтварэння ў гаспадаркі, якія дзейнічаюць больш эфектыўна і з большай выгадай для сялян.

Прамысловасць Беларусі мае дастаткова высокі інтэлектуальны і вытворча-тэхнічны патэнцыял. Ва ўмовах роўнасці ўзроўняў цэн на энерганосьбіты і сыравіну яна здольна канкурыраваць на рынках СНД. Будуць прыняты ўсе неабходныя меры для стварэння ўмоў справядлівай канкурэнцыі, захавання рынкаў сыравіны і збыту ў бліжэйшым замежжы, руху беларускіх таваравытворцаў на рынкі Еўропы, Азіі і іншых кантынентаў.

Дзяржаўная падтрымка будзе аказана высокаэфектыўным праектам структурнай перабудовы вытворчасці. Іх адбор будзе ажыццяўляцца па крытэрыях: скарачэння імпартазамяшчальнай прадукцыі, пашырэння экспартнага патэнцыялу і вытворчасці навукаёмістых вырабаў.

Будаўнічы комплекс будзе ў значнай ступені пераарыентаваны на задавальненне патрэбнасці насельніцтва ў жыллі. Жыллёвае будаўніцтва павінна стаць на бліжэйшыя гады аб'ектам прыярытэтнага фінансавання і пільнай увагі дзяржавы.

Дзяржаўная падтрымка прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі, прамысловасці і будаўніцтва будзе аказвацца незалежна ад іх формы ўласнасці.

Прэзідэнт будзе аказваць падтрымку неспекулятыўнаму прадпрымальніцтву і вызваліць яго прадстаўнікоў ад дзяржаўнага рэкету.

### АРМІЯ І ВАЕННА-ПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС

Для прэзідэнта і ўрада праблемы абаронцаў Айчыны стануць першачарговымі. Мы яшчэ не жывём у свеце ўсеагульнага дабрабыту і бяспекі. Ваенная дактрына Беларусі будзе насіць абарончы характар. Прэзідэнт будзе прымаць усе меры да аднаўлення прэстыжу армейскай службы, уключаючы вырашэнне пытанняў сацыяльнай абароны і матэрыяльнага забеспячэння ваеннаслужачых. Канверсія ваенна-прамысловага комплексу будзе праводзіцца з арыентацыяй на эканамічную мэтазгоднасць, а не на палітычную кан'юнктуру.

### НАВУКА, КУЛЬТУРА І АДУКАЦЫЯ

Навукова-тэхнічны патэнцыял — галоўны стратэгічны рэсурс Беларусі. Да яго будуць забяспечаны адэкватныя адносіны з боку дзяржавы, інакш мы пазбавімся інтэлектуальнай асновы далейшага развіцця. Будзе распрацавана Дзяржаўная праграма падтрымкі і развіцця навукі, якая прадугледжвае меры па павелічэнню фінансавання навуковых даследаванняў, па паляпшэнню матэрыяльнага становішча прафесарска-выкладчыцкага саставу сярэдніх і вышэйшых дзяржаўных навучальных устаноў і студэнтаў, забеспячэнне дзейснага клопату аб працаўладкаванні маладых спецыялістаў.

У сферы адукацыі галоўныя намаганні будуць сканцэнтраваны на безумоўнай рэалізацыі прынцыпаў даступнасці, бясплатнага атрымання базавай адукацыі, дастойнай аплаты працы педагогаў.

Асаблівым клопатам прэзідэнта павінна стаць беларуская нацыянальная культура — аснова будучыні дзяржавы. Яе развіццё павінна ажыццяўляцца ў цесным узаемадзеянні з культурамі іншых народаў свету, і перш за ўсё культурамі прадстаўнікоў тых нацый і народнасцей, якія жывуць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Прэзідэнт забяспечыць рэальную магчымасць кожнаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь думаць і гаварыць на той мове, на якой ён выхаваны. Прэзідэнт у гэтай сферы не будзе дзейнічаць прымусова.

### ПРЫЯРЫТЭТЫ САЦЫЯЛЬНАГА ХАРАКТАРУ

Галоўным аб'ектам сацыяльнай палітыкі будзе чалавек працы. Рэалізацыя сацыяльнай палітыкі будзе ажыццяўляцца па наступных напрамках:

— надзейнае дзяржаўнае рэгуляванне пражытачнага мінімуму з вызначэннем дакладнага рэгламенту яго разлікаў і пастаяннае падцягванне да яго мінімальнай аплаты працы;

— дзяржаўнае рэгуляванне даходаў насельніцтва пры дапамозе прагрэсіўнага падаткаабкладання для недапушчэння рэзкага сацыяльнага расслаення грамадства;

— рэалізацыя дзяржаўных праграм падтрымкі сям'і, мацярынства і дзяцінства;

— індэксацыя працоўных укладаў насельніцтва;

— устанаўленне гарантаваных сацыяльных дапамог для тых слаёў насельніцтва, якія не ў стане па аб'ектыўных прычынах знаходзіцца на самазабеспячэнні: інваліды, хворыя, беспрацоўныя, пенсіянеры, адзінокія маці і мнагадзетныя сем'і, бежанцы;

— задавальненне на бясплатнай аснове мінімальных патрэбнасцей у жыллі, паслугах аховы здароўя, лекавым забеспячэнні на дасягнутым узроўні іх якасці;

— увядзенне сістэмы шматмэтавых крэдытаў для моладзі і маладых сем'яў на набыццё жылля, абзавядзенне маёмасцю, атрыманне прафесіі і павышэнне кваліфікацыі ;

— устанаўленне сістэмы дзяржаўных субсідый і льготнага крэдытавання будаўніцтва прыватнага жылля з іх дыферэнцыяцыяй па ўзроўню даходаў і маёмаснаму становішчу;

— накіраванне дапамогі пацярпеўшым ад аварыі ў Чарнобылі не ў рукі чыноўнікаў, а тым, хто ў ёй мае патрэбу.

### ЗАКОННАСЦЬ, БАРАЦЬБА З КАРУПЦЫЯЙ, РАЗГРОМ МАФІЁЗНЫХ КЛАНАЎ

Канстытуцыя і законы слабыя перад уладай, якая іх не выконвае. Прэзідэнт увядзе дыктатуру Закона і будзе гарантам яе захавання.

Злачыннасць і карупцыя параджаюцца самой дзяржавай, якая не здольна рэгуляваць грамадскія адносіны і адказваць за стан спраў. Галоўным напрамкам барацьбы са злачыннасцю стане навядзенне жорсткага парадку перш за ўсё ў самой дзяржаўнай машыне. Для гэтага:

— органы дзяржаўнай улады і кіравання, праваахоўная сфера, суды будуць ачышчаны ад асоб, якія маюць дачыненне да сумніўных здзелак, што дыскрэдытуюць уладу ў вачах народа;

— будзе якасна палепшана матэрыяльна-тэхнічная і нарматыўная база дзейнасці міліцыі, пракуратуры, судоў, павышана іх адказнасць і незалежнасць у служэнні Закону;

— будуць прыняты меры па ўзмацненню адказнасці дзяржаўных чыноўнікаў за даручаную справу, практыка пакарання за службовыя злачынствы будзе ўзмоцнена;

— дэкларацыі аб даходах кіраўнікоў атрымаюць статус надзвычайнага дакумента, любыя парушэнні парадку іх прадастаўлення будуць карацца неадкладна і жорстка;

— будзе спынена практыка стварэння крымінагенных законаў, якія вымушаюць сумленных людзей станавіцца злачынцамі.

### ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА

Дзяржаўнасць Беларусі — не разменная манета, але і не абраз. Гэта здабытак, якім трэба распараджацца на карысць народа, што і павінен забяспечыць прэзідэнт.

Дабіцца аднаўлення на раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове бяздарна знішчаных сувязей з дзяржавамі, якія раней уваходзілі ў састаў СССР, перш за ўсё з Расіяй і Украінай, — важнейшы знешнепалітычны прыярытэт прэзідэнта.

Прэзідэнт ініцыіруе і будзе развіваць працэсы аб'яднання дзяржаў, якія раней уваходзілі ў састаў СССР, і будзе выступаць супраць любых дзеянняў, што разбураюць гэта адзінства.

Прэзідэнт будзе прыкладаць намаганні да павышэння міжнароднага прэстыжу, стварэння і падтрымання на належным узроўні рэпутацыі Беларусі як надзейнага і выгаднага партнёра, актыўнага ўдзельніка сусветнай, субрэгіянальнай і рэгіянальнай палітыкі.

Удзел у міжнародных арганізацыях павінен адпавядаць галоўнаму — карэнным інтарэсам народа Рэспублікі Беларусь.

Адносіны з дзяржавамі далёкага замежжа будуць вызначацца пераходам ад культурна-асветнай дыпламатыі да дыпламатыі эканамічнай.

### ЗАКЛЮЧЭННЕ

**Людзі Беларусі!**

Я не абяцаю вам малочных рэк і кісельных берагоў. Не хачу лгаць. Нам усім прыйдзецца расплачвацца за тое, што мы так доўга цярпелі негрунтоўную палітыку даўно збанкрутаванага ўрада. Наперадзе вялікая і цяжкая работа, якую ніхто, акрамя нас саміх, не зробіць.

Адвесці дзяржаву і народ ад бездані — вось першаступенная задача прэзідэнта.

Я веру ў мудрасць і працавітасць беларускага народа. Перакананы, што вырашэнне гэтай задачы нам пад сілу.

---

## ШУШКЕВІЧ Станіслаў Станіслававіч

Год нараджэння 1934. Беларус. Закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У.І.Леніна. Доктар тэхнічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

**Працоўная дзейнасць:**

1951-1956 гг. – студэнт БДУ.
1956-1959 гг. – аспірант Інстытута фізікі АН БССР.
1959-1960 гг. – малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі АН БССР.
1960-1961 гг. – старшы інжынер МРЗ, г.Мінск.
1961-1967 гг. – старшы інжынер, галоўны інжынер, загадчык сектара лабараторыі ядзернай фізікі БДУ.
1967-1969 гг. – прарэктар па навуковай рабоце Мінскага радыётэхнічнага інстытута.
1969-1971 гг. – дацэнт кафедры ядзернай фізікі БДУ.
1971-1973 гг. – в.а.прафесара, прафесар, в.а. загадчыка кафедры ядзернай фізікі БДУ.
1973-1990 гг. – загадчык кафедры ядзернай фізікі БДУ.
1986-1990 гг. – прарэктар па навуковай рабоце БДУ.
1990-1991 гг. – першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета.
1991-1994 гг. – Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
1994 г. – да цяперашняга часу – дырэктар Цэнтра палітычных і эканамічных даследаванняў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта.

# Праграма кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Станіслава Станіслававіча Шушкевіча

### ПРАМЫСЛОВАЯ ПАЛІТЫКА

Мэта — сусветная канкурэнтаздольнасць прадукцыі.

Стратэгія— максімальна хутка стварыць недзяржаўны сектар эканомікі і эфектыўна кіраваць дзяржсектарам.

Недзяржаўны сектар — база аздараўлення эканомікі, стварэння канкурэнцыі, структурнай перабудовы і мадэрнізацыі, пераарыентацыі на патрэбы жыхароў, крыніца новых працоўных месцаў. Неабходна эфектыўна выкарыстаць абодва асноўныя напрамкі яго пабудовы: стварэнне новых прыватных прадпрыемстваў і прыватызацыю.

### ПЕРШАЧАРГОВЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ:

— заканадаўча гарантаваць эканамічныя свабоды, правы на ўласнасць;

— стварыць рынак нерухомасці;

— максімальна спрасціць парадак рэгістрацыі новых фірм;

— хутка правесці народную прыватызацыю на аснове галоснай конкурснай працэдуры паралельна за грошы і прыватызацыйныя чэкі (да канца 1994 года прыватызаваць 1/3 частку маёмасці, увесь гандаль, бытавыя паслугі, грузавы транспарт);

— не дапусціць стварэння холдзінгаў замест міністэрстваў-манапалістаў;

— забяспечыць дзеянне закона аб банкруцтве;

— неадкладна ўкараніць эфектыўны механізм кантролю за дзяржаўнай доляй уласнасці, за прыбыткам ад яе. Дзяржсектар у рыначных умовах не павінен станавіцца нічыйным, гэта ўжо прывяло да безгаспадарчасці, прададання фондаў, раскрадання;

— стварыць наглядальныя саветы дзяржпрадпрыемстваў, якія, як і на прыватных прадпрыемствах, заключаюць кантракты з адміністрацыяй, зацвярджаюць бізнес-планы мадэрнізацыі, акцыяніравання, удзельнічаюць у прыватызацыі.

### ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

Мэта — захаванне і пашырэнне рынкаў і крыніц рэсурсаў, доступ да сучасных тэхналогій.

Дзяржаўныя задачы — знізіць тэмпы росту знешняга доўгу, паступова, па меры вычарпання ўнутранай канкурэнцыі, адкрыць нацыянальную эканоміку і інтэграваць яе ў сусветную.

Стратэгія — максімальнае выкарыстанне геаграфічнага становішча Беларусі, яе транзітных магчымасцей — ролі моста паміж Расіяй і Заходняй Еўропай, Украінай і краінамі Балтыі.

### ПЕРШАЧАРГОВЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ:

— прыступіць да рэалізацыі нацыянальнай праграмы стымулявання экспарту, якая ўлічвала б тэндэнцыю пераўтварэння традыцыйных рынкаў у краінах СНД у адкрытыя з сусветнай канкурэнцыяй;

— скараціць імпарт энерганосьбітаў і збожжа, мытнымі тарыфамі стымуляваць імпарт тэхналогій і абсталявання;

— увесці жорсткі кантроль за эфектыўным выкарыстаннем знешніх крэдытаў, вырашыць праблему абслугоўвання пазык, зробленых урадам Кебіча (толькі ў 1994 годзе гэта 305,8 млн. даляраў);

— накіраваць усю знешнюю палітыку на абарону нацыянальных эканамічных інтарэсаў;

— актыўна дапамагаць беларускаму прадпрымальніку ў адкрыцці новых рынкаў;

— усямерна стымуляваць замежныя інвестыцыі, у першую чаргу для мадэрнізацыі прадукцыі, рэалізуемай на расійскім рынку, з мэтай далейшага яго захавання.

Ад міжнароднага супольніцтва мы чакаем не разавай дапамогі, а тэхналогій, спрыяльнага рэжыму гандлю, адмены дыскрымінацыйных мытных пошлін, свабоды перамяшчэння грамадзян.

### ІНВЕСТЫЦЫЙНАЯ ПАЛІТЫКА

Асноўныя накірункі:

— навука, адукацыя, тэхналогія;

— канверсія;

— недзяржаўны сектар;

— аграперапрацоўчая прамысловасць;

— рэнтабельныя ў сусветных цэнах флагманы прамысловасці.

Стратэгія — сканцэнтраваць рэсурсы на наступных асноўных накірунках:

— вывад на сусветны ўзровень некалькіх перспектыўных прадпрыемстваў, селектыўная дзяржпадтрымка.

### КРЫНІЦЫ ФІНАНСАВАННЯ:

— Інвестыцыйныя банкі і фонды, створаныя на аснове платнай прыватызацыі;

— сродкі прыватных айчынных і замежных інвестараў праз акцыі беларускіх прадпрыемстваў;

— міжнародныя фонды і ўдзел у міжнародных навукова-тэхнічных праектах.

### МЕХАНІЗМ ФІНАНСАВАННЯ:

— стварыць Савет экспертызы інвестыцыйных праграм;

— стварыць сетку інавацыйных навукова-тэхнічных цэнтраў (у тым ліку пры акадэміях) з ільготамі па падаткаабкладанню. Навука павінна не назіраць за рэформамі, а актыўна ў іх удзельнічаць;

— зняць абмежаванні на прыток замежнага і інвестыцыйнага капіталу (уключаючы куплю зямлі);

— вызваліць ад падатку прыбытак, які выкарыстоўваецца на інвестыцыі;

— выпусціць інвестыцыйную пазыку;

— арганізаваць сістэму страхавання валютных крэдытаў.

Замежныя інвестары з капіталамі, сучаснымі тэхналогіямі, вядомымі ў свеце маркамі вырабаў прыйдуць да нас толькі тады, калі самі беларускія прадпрымальнікі будуць укладваць свае грошы тут, а не вывозіць іх за мяжу. Неабходна стварыць умовы для прадпрымальніцтва на Беларусі лепшыя, чым дзе б то ні было ў свеце.

### АГРАРНАЯ ПАЛІТЫКА

Мэта — новы многаўкладны аграрны лад, заснаваны на канкурэнцыі пры поўнай свабодзе выбару форм гаспадарання і ўласнасці (калгас, саўгас, фермер, кааператыў, аграперапрацоўчае акцыянернае таварыства).

### НАКЛАДНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ:

— пашырыць па прыкладу Расіі права прыватнай уласнасці на зямлю, стварыць рынак зямлі;

— сфарміраваць механізмы арэнды дзяржаўнай зямлі і перадачы яе ад банкрутаў да эфектыўна працуючых калектываў або асоб;

— стварыць сельскагаспадарчыя, у тым ліку кааператыўныя банкі, укараніць эфектыўную сістэму крэдыту, на сезонныя затраты пад ураджай, зямлю;

— паступова перайсці ў сельскай гаспадарцы да аднаго падатку — падатку на зямлю;

— сфарміраваць сістэму рыначнага агрaсервісу (пракатныя і лізінгавыя пункты, маркетынгавыя, збытавыя і сэрвісныя кааператывы і г.д.), усямерна стымуляваць інвестыцыі і перапрацоўчую сферу;

— дэманапалізаваць і прыватызаваць агрaсервіс і перапрацоўчую прамысловасць пры ўдзеле вытворцаў сельгаспрадукцыі;

— падтрымаць грамадзян, якія перасяляюцца з гарадоў у вёску для арганізацыі сялянскіх гаспадарак, у тым ліку выдзяляць у прыгарадах зямельныя ўчасткі гараджанам, дачнікам для вядзення гаспадарчай дзейнасці;

— структурна перабудаваць сельскую гаспадарку пад сусветныя цэны;

— стымуляваць экспарт сельгаспрадукцыі;

— забяспечыць поўнае права распараджэння сельгаспрадукцыяй тым, хто яе стварае;

— забяспечыць права выхаду з калгаса з зямельным і маёмасным надзелам для стварэння фермерскай гаспадаркі.

### ФІНАНСАВАЯ ПАЛІТЫКА

Аснова эканамічнай залежнасці — самастойная фінансавая палітыка і моцныя ўласныя грошы.

Неадкладная дзяржаўная задача — спыніць інфляцыю, стабілізаваць і канвертаваць грашовую адзінку.

Стратэгія — карэнным чынам змяніць бюджэтна-падатковую палітыку.

Вялікія падаткі — вынік празмерных расходаў.

Мерапрыемствы:

— устанавіць падаткі, якія б стымулявалі вытворчасць, і аднaчасова ліквідаваць дзярждатацыі і субсідыі;

— скасаваць падатковыя льготы і выключэнні;

— аб'яднаць і надзвычай падатак;

Ліквідацыя наступстваў Чарнобыля — справа дзяржавы, міжнароднага супольніцтва, і Расіі ў тым ліку.

— стварыць афшорную зону на забруджаных тэрыторыях;

— павялічыць падаткі на нерухомасць, транзіт, тарыфы на імпарт прадметаў роскашы;

— павялічыць долю падаткаў, адлічваемых у мясцовы бюджэт;

— праводзіць цвёрдую крэдытную палітыку на аснове эканамічных крытэрыяў з пазітыўнай працэнтнай стаўкай;

— стабілізаваць цэны шляхам дэманапалізацыі, стварэння механізма канкурэнцыі;

— вырашыць праблему неплацяжоў шляхам увядзення вексельнага абарачэння даўгавых абавязкаў з пераўтварэннем іх у каштоўныя паперы;

— стымуляваць канкурэнцыю ў банкаўскай сферы.

Галоўная задача банкаў — стымуляванне накапленняў і іх перадача інвестарам.

— ліквідаваць розніцу паміж наяўным і безнаяўным рублём;

— упарадкаваць валютны рынак у інтарэсах беларускай эканомікі і стварыць умовы для вяртання капіталаў з-за мяжы.

### САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

Мэта — дапамога насельніцтву адаптавацца да новых умоў жыцця.

Стратэгія — адрасная падтрымка ў першую чаргу слабаабароненых слаёў насельніцтва.

### ПРЫЯРЫТЭТЫ:

— ахова здароўя нацыі;

— дзейсная дапамога пенсіянерам, інвалідам, дзецям, моладзі, беспрацоўным.

### АСНОЎНЫЯ НАКІРУНКІ

— рэалізаваць праграму барацьбы з беспрацоўем, уключаючы ліквідацыю скрытага беспрацоўя. Для гэтага:

— пашырыць сістэму перападрыхтоўкі, павялічыць водпуск па догляду дзіцяці, арганізаваць каля 1 мільёна працоўных месц у недзяржаўным сектары;

— распрацаваць Кодэкс сацыяльнай абароны, які адпавядаў бы магчымасцям эканомікі. Для гэтага:

— рэфармаваць пенсіённую сістэму, у прыватнасці, персаніфікаваць яе;

— арганізаваць строгі кантроль прафсаюзаў, працадаўцаў і страхуемых за выкарыстаннем сацыяльных фондаў;

— павысіць эфектыўнасць працы Фонду сацыяльнай абароны: мінімальная пенсія павінна гарантаваць дастойнае жыццё;

— стварыць сетку альтэрнатыўных, напалову дзяржаўных, пенсіённых фондаў;

— стварыць Фонд адаптацыі;

— кампенсаваць абясцэненыя інфляцыяй уклады і рэчавыя чэкі;

— рэалізаваць жыллёвую праграму, забяспечыўшы льготнае крэдытаванне для малазабяспечаных, стварыўшы тым самым сапраўдны рынак жылля.

### МАЛАДЗЁЖНАЯ І ЖАНОЧАЯ ПАЛІТЫКА

**студэнты, моладзь:**

— падтрымаць дзяржаўную стыпендыю на ўзроўні мінімальнай заработнай платы;

— кожнаму таленавітаму студэнту даць магчымасць атрымаць адукацыю бясплатна;

— прадаставіць магчымасць атрымання беспрацэнтнага крэдыту ў памеры 12 мінімальных заработных плат за год вучобы;

— увесці кантрактную сістэму працаўладкавання;

— вызваліць студэнтаў ад вайсковай службы;

— удасканаліць сістэму альтэрнатыўнай службы;

— ажыццявіць комплекс мер (адукацыя, цэнтры сацыяльнай адаптацыі) па ліквідацыі падлеткавай злачыннасці;

— аказваць падтрымку канкрэтным маладзёжным праектам замест выдаткаў на ўтрыманне кіруючых структур;

— падтрымліваць жыццяздольныя маладзёжныя структуры: МЖК, студэнцкія будаўнічыя атрады, інтэрнатаўскае самакіраванне і інш.;

— увесці абавязковае бясплатнае дзяржаўнае страхаванне вайскоўцаў.

**жанчыны:**

— паступова стварыць умовы, пры якіх сама жанчына будзе вырашаць праблему выбару: кар'ера або сям'я.

Сёння ў нас жанчына не мае выбару: працаваць ці займацца хатняй гаспадаркай. Толькі напаўненне рынку паўфабрыкатамі, бытавой тэхнікай пры партнёрскім падзеле абавязку ў сям'і дасць жанчыне роўныя з мужчынам правы;

— вырашыць праблему занятасці жанчын (першай звальняюць, апошняй бяруць на працу);

— павялічыць выплаты пры нараджэнні дзіцяці;

— падоўжыць тэрмін водпуску па догляду дзіцяці;

— узмацніць дзяржаўную дапамогу няпоўным сем'ям.

### ПАЛІТЫКА Ў ГАЛІНЕ НАВУКІ, АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ

Мэта — адраджэнне Беларусі як еўрапейскай дзяржавы пры сусветным узроўні развіцця навукі і адукацыі, росквіце культуры.

### МЕРАПРЫЕМСТВЫ:

— зрабіць адукацыю і навуку галоўнымі кампанентамі інвестыцыйнай дзейнасці;

— выконваць устаноўленыя Вярхоўным Саветам нарматывы бюджэтных асігнаванняў: 10 працэнтаў — адукацыя, 3 працэнты — культура;

— стварыць ад дзіцячага сада да універсітэта сістэму сацыяльнай падтрымкі талентаў;

— вывесці адукацыю на ўзровень лепшых сусветных стандартаў;

— інтэграваць навуку ў сусветны падзел працы;

— узнавіць і шырока развіваць навуковыя сувязі з краінамі былога СССР;

— стварыць дзяржаўнае аб'яднанне "Міжкніга", каб спрыяць творчаму абмену з замежжам;

— увесці льготнае падаткаабкладанне ўстаноў навукі, культуры, адукацыі;

— скасаваць падаткі на спонсарскую, інвестыцыйную дзейнасць у інтарэсах адукацыі, навукі і культуры;

— рэальна гарантаваць свабоду творчасці, абарону аўтарскіх правоў;

— садзейнічаць арганізацыі конкурсаў, фондаў падтрымкі талентаў;

— садзейнічаць рэалізацыі заканадаўча прынятага статуса беларускай мовы.

### ПАЛІТЫКА Ў ГАЛІНЕ ІНФАРМАЦЫІ

Мэта — стварыць сучасную інфармацыйную сістэму, заснаваную на творчай самастойнасці, канкурэнцыі, інтэграваную ў сусветную інфармацыйную прастору.

### МЕРАПРЫЕМСТВЫ:

— заканадаўча і практычна гарантаваць творчую самастойнасць друку, радыё, тэлебачання;

— дэманапалізаваць і надалей не дапускаць манапалізацыі сродкаў інфармацыі;

— стварыць паўнацэнны недзяржаўны канал тэлебачання;

— забяспечыць аднолькавую падтрымку ўсіх перыядычных выданняў у выглядзе дзярждатацыі на дастаўку;

— рашуча спыніць прапаганду антыдзяржаўных, антынацыянальных ідэй, шавінізму, рэлігійнага супрацьстаяння, насілля, парнаграфіі;

— упарадкаваць і прывесці ў цывілізаваныя формы рэкламную дзейнасць, пры неабходнасці прыняць закон аб рэкламе;

— дазволіць дзяржаўным органам выдаваць толькі афіцыйныя інфармацыйныя бюлетэні, забяспечваць афіцыйнай інфармацыяй усіх, каму яна патрэбна;

— дэманапалізаваць і прыватызаваць выдавецтва "Беларускі Дом друку";

— садзейнічаць будаўніцтву неабходных камунікацый для стварэння інфаструктуры Захад — Усход;

— мадэрнізаваць сродкі масавай інфармацыі за кошт укаранення сучасных тэхналогій (тэлеканферэнцыі, банкі дадзеных, мульты-медыя).

